*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 8 (445) 23 ЛЮТАГА 2000 г.

## Рыгору Барадуліну -- 65



**24 лютага народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну спаўняецца 65 гадоў. Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" сардэчна віншуюць Рыгора Іванавіча з угодкамі і зычаць сілаў і натхнення ў справе служэння Бацькаўшчыне.**

Фота Яўгена Казюлі,БелТА.

*(Матэрыяя, прысвечаны Рыгору Барадуліну, чытайце на 3-й старонцы)*

## "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы"

Згодна з планам работы ТБМ на 2000 год 26 лютага ў памяшканні Дома літаратара (Фрунзе, 5) пройдзе навукова-практычная канферэнцыя "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы". У часе канферэнцыі адбудуцца прэзентацыі кніг Ул. Арлова і Г.Сагановіча – "Дзесяць вякоў беларускай гісторыі", Кастуся Тарасава – "Беларусь: гістарычнае падарожжа для дзяцей", Міхася Скоблы "Дзярэчанскі дыярыюш". Тым арганізацыям, што пастаўлены на ўлік у мясцовых выканкамах, будуць уручаныя харугвы ТБМ, кнігі "Дзесяць вякоў..." і "Жыватворны сімвал Бацькаўшчыны", а таксама каляндарыкі ТБМ.

Рэгістрацыя ўдзельнікаў: 9.00 – 10.00.

Канферэнцыя "Закон аб мовах – вынікі і перспектывы": 10.00 - 17.00.

Ласкава просім Вас узяць удзел у канферэнцыі.

Праезд аплочваецца ў абодва бакі.

Вымушаны звярнуцца таксама з настойлівай просьбай прывезці (альбо даслаць) у Сакратарыят ТБМ, што на Румянцава, 13, копію пасведчання аб пастаноўцы на ўлік Вашай арганізацыі ў выканкаме.

## Збор подпісаў працягваецца

Працягваецца збор подпісаў за адкрыццё Беларускага нацыянальнага універсітэта.165 подпісаў сабрана ў Гомелі, 13 подпісаў паступіла з Берасця.

У Лідзе і Пінску стартавалі акцыі па збору подпісаў за адкрыццё БНУ, або некалькіх яго факультэтаў у гэтых гарадах.

## Падпіска 2000

Шаноўныя чытачы "Нашага слова". Працягваецца падпіска на нашу газету. Сёння на яе можна падпісацца яшчэ па старых цэнах (100 рублёў на месяц і 300 рублёў на тры месяцы), але рыхтуецца да друку новы каталог на 2-гі квартал 2000 года. Пасля яго выхаду кошт падпіскі будзе 131 рубель на месяц і 393 рублі на тры месяцы. Рэдакцыя не падымала цану ні на капейку. Рост адбыўся за кошт прымянення падатку на дабаўленую вартасць і за кошт росту тарыфаў на паштовыя перавозкі. Пры гэтым мы нават не можам умяшацца, бо не маем падстаў panізіць рэдакцыйную цану ў той час, калі цэны на друк і на паперу прадаўжаюць расці. Нас не зразумее ні адзін падатковы інспектар. Але сёння ўва ўсіх вас ёсць выйсце. Трэба проста падпісацца ў бліжэйшыя дні. Падпіска прымаецца, ніхто ніякай даплаты патрабаваць не збіраецца. Таму мы раім вам паспяшацца.

## Івану Навуменку -- 75 гадоў

16 лютага споўнілася 75 гадоў народнаму пісьменніку Беларусі, літаратуразнаўцу, акадэміку Нацыянальнай акадэміі навук Івану Навуменку. Сакратарыят ТБМ, рэдакцыя газеты "Наша слова" шчыра віншуюць Івана Якаўлевіча з юбілеем і зычаць здароўя і далейшых творчых поспехаў.

Фота з дассе БелТА.



## Беларускія СМІ пра беларускую мову

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Па сваёй справе чытаю амаль усю айчынную перыёдыку. Але з усіх газет вылучаю "Звязду", бо яна выдаецца на нашай роднай мове. Чытаючы яе, адчуваю сябе беларусам.

**Дарадца старшыні канцэрна "Белнафтахім" Віктар Азараў.**
**"Звязда" 14.12.99г.**

**Каментар:**
**Гэта не толькі голас прыхільніка, гэта думка беларуса.**

*Лічу, што Беларусь стане квітнеючай і добраўпарадкаванай толькі, калі беларусы прыгадаюць нарэшце сваю культуру і сваю мову.*

***Кастусь Антановіч, "Звязда" 8.12.99г.***

"Элітныя" бацькі пасылаюць сваіх нашчадкаў у "элітныя" школы – рускамоўныя: адтуль прамы шлях да вышэйшай адукацыі, якая ў беларускай дзяржаве – спрэс на мове суседняй краіны.

**"Народная воля" 6.01.2000 г.**
**Святлана Кліменцэнка.**

*"... бо тут вось я заўважыў, што нашыя актывісты як выступаюць, дык пнуцца прамаўляць па-расейску, хоць і не ўмеюць. Дык чаму не прамаўляць па-свойму, па-беларуску - мы ж урэшце дачакаліся свабоды свайго слова!"*

*У адказ узяў слова сам "райіспалком" і кажа: "Гэта очань інцярэсны вапрос, але вам трэба ўсвядоміць, што ў нас ніхто нікога не заставляе, як прамаўляць. А калі камусь наравіцца рускі язык, дык пажалуйста, няхай стараецца і развучвае яго".*

***Яўген Лецка.***
***"Народная воля" 5.01.2000г.***

**Каментар: з успамінаў Язэпа Сажыча пра 1919 год.**

Беларускі савецкі фантом поспехаў роднае мовы быў для каго суцяшэннем, а для каго і спосабам прыкрыць сапраўдную моўную палітыку ў БССР. І партыйныя рапарты пра тое, што 79% беларусаў уважаюць беларускую мову роднай", мала стасавалася з рэаліямі, дзе жывой мове не было месца. У цяперашняй афіцыйнай публікацыі з немаведама якой боязі няма лічбы, колькі ж беларусаў лічыць сваю мову роднай сёння. "Назвалі роднай мовай мову сваёй нацыянальнасці амаль 82 працэнты насельніцтва рэспублікі... У 1989 годзе гэты паказчык склаў адпаведна 78 працэнтаў".

**Гары Куманецкі.**
**"Наша Ніва" 20.12.1999г.**

*Можна ўзгадаць і пра супярэчанне дамовы (Я.П. – саюзнай дамовы) статусу беларускай мовы як дзяржаўнай: у арт. 11 мовай міжбаковых зносін абвяшчаецца расейская мова, то бок, асіміляцыя беларускага насельніцтва і прыніжэнне беларускае культуры будуць працягвацца.*

***Міхаіл Пастухоў***
***"Наша Ніва" 6.12.99г.***

Будзе многа цяжкага ў нашым жыцці, многа небяспечнага, але Беларусь жыла і будзе жыць. Мова беларуская жыла і будзе жыць. Яна і не такое перажыла.

**"Звязда" 18 снежня 1999 г.**

***Ерась альбо неабходнасць?***

*Пратаірэй Георгій Латушка: "Сёння з'явілася патрэба ва аўтарытэтным ужыванні беларускай мовы, у яе ўзвышэнні.*

*Не толькі ўдмурцкая, алеуцкая, японская мовы, але і беларуская мова таксама здольна вымавіць слова пра Бога, што для мяне, як для беларуса, неабходна.*

***Настаяцель св. Петра-Паўлаўскага сабора ў Менску.***



№ 8 (445) 23 ЛЮТАГА 2000 г. наша слова

## Вось табе і "образовательные стандарты"

По заданню Міністэрства адукацыі аўтарскім калектывам Нацыянальнага інстытута адукацыі распрацаваны "Руководящие документы Республики Беларусь (образовательные стандарты)". Так гэта гучыць на мове арыгінала. Гэты "Документ" яскрава і аб'ектыўна адлюстроўвае стан і адносіны да мовы беларусаў дзяржаўных органаў на Беларусі. На беларускай мове ў гэтым "Документе" напісаны толькі назвы раздзелаў па прадметам навучання. Усяго 60 беларускіх слоў на 391 старонку тэксту. Узнікае пытанне, якой жа нацыі служыць наш Нацыянальны інстытут. Дарэчы, столькі ж слоў, тыя самыя назвы раздзелаў, надрукаваны на ангельскай мове.

Інакш як здзек над нацыянальным гонарам грамадзян Рэспублікі Беларусь гэта ўспрыняць нельга.

Што датычыць зместу "Документа", то, па-першае, калі гэта стандарт, то ў ім не павінна быць ні памылак, ні апісак. А яны ёсць. Па-другое, прыкладам, павышаны ўзровень па матэматыцы, настолькі заніжаны, што не дае магчымасці здаць уступныя экзамены ў ВНУ без рэпетытара. А рэпетытара нойме толькі багаты. "Документ" мае выразную накіраванасць супроць вучня.

***Настаўнік матэматыкі Пілкоўскай школы Мастоўскага раёна***

***Лявон Карповіч.***

## *Пра відэакурс беларускай мовы*

Я ўжо каля 3-х апошніх гадоў раблю невялічкі аналіз праграм Беларускага тэлебачання. І тут, я вам скажу, вымалёўваецца даволі цікавая карціна – усе гэтыя гады па некалькі разоў на тыдні БТ перадае відэакурсы англійскай, нямецкай, а зараз яшчэ і італьянскай моваў.

Канешне, замежныя мовы трэба ведаць, але чаму на гэтым жа БТ не перадаюцца відэакурсы беларускай мовы? Можа мы добра ведаем яе? Відаць што не, бо нават у перадачах беларускага тэлебачання і радыё часцяком сустракаецца "трасянка", як дарэчы, і нашым побыце.

Праўда, на БТ ёсць перадача "Роднае слова", але яна выходзіць рэдка, ды і відэакурс беларускай мовы яна не замяніла б, а дапоўніла б яго. Хаця само "Роднае слова", на маю думку, перадача даволі цікавая.

І калі б беларускае радыё і тэлебачанне больш прапагандавалі родную мову, вучылі б ёй з экрана ці дынаміка, то тады б на беларускай мове размаўлялі б не 3,7 млн. беларусаў, як па перапісу 1999 года, а значна больш.

***Сябра ТБМ Святаслаў Фёдаравіч Маханёк,***
***г.п. Круглае Магілёўскай вобласці***

## Рыхтуецца зборнік паэзіі пра родную мову

У Гомельскім дзяржаўным універсітэце імя Францішка Скарыны збіраецца сусветная паэзія пра беларускую мову. Рыхтаваны зборнік аб'ядноае ўсю паэзію, якая змешчана ў зборніках "Каласы роднай мовы". (Склад. У.В.Анічэнка і К.С.Усовіч. Мн.: Універсітэцкае, 1990, 278с.); "Сэрцам роднага слова краніся". Хрэстаматыя для вучняў старэйшых класаў. (Склад. М.М.Воінаў і К.С.Усовіч. Мн.: Народная асвета, 1998, 295 с.), а таксама тую, якая не ўвайшла ў іх або створана пасля выхаду гэтых зборнікаў.

Звяртаемся да ўсіх паэтаў Беларусі і свету дасылаць свае апублікаваныя вершы пра беларускую мову на адрас: 246699, Гомель, Савецкая, 104, каб. 1-7, музей-лабараторыя Ф. Скарыны, Усовічу Канстанціну Сяргеевічу.

## Беларуская матэматычная алімпіяда

У Магілёве прайшла Беларуская матэматычная алімпіяда 2000.

***На здымках: адзін з арганізатараў алімпіяды старшыня Магілёўскай абласной арганізацыі ТБМ Міхась Булавацкі; пад час алімпіяды.***




**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, намеснік старшыні Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

## *"З чужой моўнай практыкі..."*

Працяг

***Зайчы, зайцаў, зайчына, зайчаціна – ці заечы, заечына, заячына.*** Слова ***зайчы*** як адпаведнік рас. ***заячий*** засведчыў "Беларуска-расійскі слоўнік" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Менск, 1926. с.109). БРС–62 падае ***зайцаў***, але толькі з пасылкаю: см. ***заечы***(с.285). А адпаведнікамі рас. ***заячий*** выступаюць ***заечы*** і ***заячы*** (с.284). Бачым тут і наступнае: "***Заечына*** і ***заячына***". (Тамсама). Двухтомавае яго перавыданне падае ўжо і слова ***зайчаціна***, але толькі як дыялектнае, з адсылкаю: "см. ***заечына***" (БРС–88. С.440).

Аднак "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" (Т.2.Мн.,1978.С.318) здымае гэтае абмежаванне *"абл."* З словаў ***зайцаў*** і ***зайчаціна***, падае ён і слова ***зайчына*** з наступнымі кваліфікацыямі: "***Зайцаў*** разм. 1. Які належыць зайцу. Зайцаў след. 2. Тое, што і заечы (у 3 знач.). (Г. зн. Як частка батанічных тэрмінаў: заячая капуста, заячая канюшына, заячае шчаўе – П.С.). "Зайчаціна ж. Мяса зайца як ежа; заячына; зайчына ж. Тое, што і зайчаціна; зайчына, -ая, -ае. Тое, што і заячы (у 1, 2 знач.). Зайчыны след. Зайчыны нароў. Зайчыная душа"...

Формы ***зайцавы, зайцаў, зайчаціна, зайчы, зайчыны*** маюць больш шчыльныя стасункі з астатнімі аднакаранёвымі словамі, бо захоўваюць супольную аснову ***зайц-/зайч-***: ***зайчаня і зайчанятка, зайчык, зайчыха***. Формы ж ***заечы*** і ***заячы*** (і вытворныя ад іх ***заечына*** і ***заячына***) стасуюцца толькі з словам ***заяц***. Ды і то з адною словаформай – назоўнага склону (заяц); астатнія 11 словаформаў з гэтай парадыгмы маюць аснову ***заяц-*** (***зайца, зайцу... зайцы, зайцоў...***). Так што перавага за словамі з гэтай формай асновы ***зайц-*** (і ***зайч-*** пры чаргаванні ***ц/ч***).

Здзіўляе "Тлумачальны слоўнік" 1996 года, які падае слова ***заяц*** і вытворны ад яго прыметнік ***заечы*** (С. 232). І няма тут іншых словаў, якія фіксаваў яго папярэднік (гл.вышэй). Праўда, на с.211 бачым яшчэ: "Заечы гл. заяц" і "вае'чына, -ы. ж. Мяса зайца як ежа". Аднак гэтае ***заечына*** вымагае і формы ***заец***, але ж яна штучная для сучаснай мовы; тут ужо больш хіба пасуе ***заячына*** – з захаваннем акцэнтаванае нормы ўтваральнага слова ***заяц***. Хоць і гэтае ***заячына*** не надта дастасаванае да структуры бальшыні словаў гэтага лексічнага гнязда. Дый структура вытворных прыметнікаў звычайна мае супольную форму з асноваю словаформы роднага склону множнага ліку назоўнікаў: ***сцяна – сцен- (аў) і насценны, дзень – дзён і надзённы, верасень – верасняў і вераснёвы...*** Так і тут: ***заяц – зайцаў*** і ***зайцовы*** ці ***зайцаў – зайцавы***. Да таго ж вытворныя ***зайчык, зайчыха, зайчаня, зайчанятка*** не маюць гэтае незвычайнае формы ***заец***. Бо тады было б: ***заечык, заечыха, заечаня...***

Мусіць, толькі з аглядкай на ўсесаюзны стандарт нашыя слоўнікі захоўваюць гэтае ***заячы*** і ***заячына*** – на месцы натуральных ***зайчы, зайцаў і зайчына, зайчаціна.***

***Ключыцавы – а не ключычны.*** Прыметнік ***ключыцавы*** лёгка стасуецца з утваральным словам ***ключыца***, маючы тую самую форму асновы: ***ключыц-авы***. А вось ключычны такой празрыстай структуры не мае. Недарэмна тэрміналогіі адмовіліся ад слабаматываванай формы ***ключачны*** (да таго ж і немілагучнай – з элементам ***–чычн-***) і замянілі яе на натуральную ***ключыцавы***. Так, у даведніку "Анатомический словарь (русско-белорусско-латинский, белорусско-латинский; латинско-белорусский)" (Минск, 1998. С.65) чытаем: ***ключичный – ключыцавы.*** Як і ***пясніцавы*** (а не ***паяснічны***), ***патыліцавы*** (не ***патылічны***), ***селязёнкавы*** (не ***селязёначны***), ***пятавая косць*** ( а не ***пятачная***, якое стасуецца з ***пятак***).

А вось акадэмічныя слоўнікі ўвесь час дублююць расейскія формы. Напрыклад: ***ключичный – ключачны, поясничный – паясьнічны, затылочный – патылічны, селезёночный – селязёначны, пяточный – пятачны.***

***Заканчэнне – а не заключэнне.*** У сучасным друку, навуковых працах нярэдка бачым гэтае ***заключэнне*** як адзін з раздзелаў працы (***уступ, галоўная частка, заключэнне***). Але ці апраўданае яно тут? Акадэмічныя перакладныя слоўнікі справядліва лічаць нарматыўным тут слова ***заканчэнне***, бо гэта ж канец працы, яна закончваецца. Яшчэ першы акадэмічны даведнік "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К.Крапівы, П. Глебкі (М.,1953. С.147) засведчыў: "Заключение ср. 1. замыканне; (в тюрьму и т.п.) зняволенне, зняволыванне; 2. (вывод) заключэнне, вывад; 3. (конец) заканчэнне; 4. (договора, мира и т.п.) заключэнне". Як бачым, з значэннем рас. ***заключение*** тут падаецца белар. ***заканчэнне***. Дый замест ***"вывад, заключэнне"*** сучасны нацыянальны друк выкарыстоўвае слова ***выснова***. Толькі як дыпламатычны, афіцыйны тэрмін выкарыстоўваецца пазычанае (з рас.) ***заключэнне***.

І ў "Тлумачальным слоўніку беларускай мовы" чытаем: "Заканчэнне, н. 1. Давядзенне да канца, завяршэнне чаго-небудзь. 2. Заключная частка, канец чаго-небудзь" (Т.2.Мн.,1978. С.321). Але ж на 328 старонцы ўжо бачым і: "Заключэнне... апошняя, заключная частка твора, прамовы і пад. Дысертацыя складаецца з уступу, трох глаў і заключэння". Аднак гэтая штучнасць і рэестравага слова, і яго азначэння відавочная. Гэты артыкул амаль цалкам перанесены з расейскіх тлумачальных слоўнікаў (Гл.: С.И. Ожегов. Словарь русского языка. М.,1982.С.185). "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй акадэміка К. Крапівы рас. ***заключение*** перакладае як ***заканчэнне*** (завяршальная частка твора ды пад.) (РБС – 82. Т.1. С.264). Гэта пацвярджае і РБС – 93 і РБС – 98 (Т.1. С.465).

Натуральна па-беларуску і ўстойлівы зварот на заканчэнне як адпаведнік рас. в заключение. Дарэчы, ён тут таксама згадваецца.

На жаль, гэтую норму беларускай мовы парушае і "Тлумачальны слоўнік" 1996 (с.214), скапіяваўшы артыкул "Заключэнне" з "Словаря русского языка" С. Ожагава (М.,1982.С.185).

***У жывым эфіры – ці ў прамым эфіры?*** Па радыё апошнім часам чуем: "У ***жывым*** эфіры – перадача спаборніцтваў...". Гэта значыць, ідзе беспасярэдная трансляцыя спаборніцтваў (а не перадача ў запісе). Удалая замена штучнага пазычання ***"у прамым эфіры" (< в прямом эфире)***.

Наш нацыянальны друк у незалежнай Беларусі паспяхова пазбаўляецца ўсесаюзных стандартаў, замацоўваючы сваямоўныя намінацыі. Так, замест ранейшага ***"прамая трансляцыя" (< прямая трансляция)*** выкарыстоўваецца і натуральнае ***беспасярэдная трансляцыя***. Як і замест штучнага ***"хадзячая энцыклапедыя"*** натуральнае – ***жывая энцыклапедыя.*** Параўнайма: ***жывыя грошы.***

Замест ***прамы вагон*** пабеларуску натуральна ***беспераcадачны вагон***. На месцы ***прамое значэнне – першаснае (даслоўнае) значэнне***, г.зн. тое, якое замацавалася за адпаведным гукаспалучэннем у самым пачатку ўзнікнення слова.

Натуральнае ў беларускай мове ***простая прапарцыйнасць***, а не пазычанае ***прамая прапарцыянальнасць (< прямая пропорциональность).***

*(Працяг у наст. нумары).*

"САЮЗ ПАЛЯКАЎ на БЕЛАРУСІ"
230023 Гродна, вул. Дзяржынскага 32
тэл/факс: (+375) (0152) 72-00-75
Разліковы рахунак: 3015204440014
Аддзяленне "Белбізнесбанку", код 705



"ZWIĄZEK POLAKÓW na BIAŁORUSI"
230023 ul. Dzierżyńskiego 32, Grodno
tel/fax: (+375) 0152 72-00-75
Konto: 3015204440014
Wojewódzki Wydział "Białoruśbanku", kod 705

Гродна, 10.02.2000
Сп. Алег Трусаў
Старшыня Таварыства
беларускай мовы
Менск, вул.Румянцава, 13

**Да сяброў Таварыства беларускай мовы**

Галоўнае праўленне ГА Саюз палякаў на Беларусі падтрымлівае прапанову ТБМ аб стварэнні на Беларусі Нацыянальнага універсітэта.

Мы ўпэўненыя ў тым, што стварэнне беларускай нацыянальнай вышэйшай школы паспрыяе развіццю беларускай адукацыі і адраджэнню беларускамоўнай сярэдняй школы, а з часам – адзінай дзяржаўнай мовы, менавіта беларускай.

Дзейнасць Нацыянальнага універсітэта паўплывае на павялічэнне колькасці свядомай беларускай інтэлігенцыі, якая забяспечыць суверэнную і незалежную будучыню Беларусі.

Старшыня Аб'яднання Тадэвуш Гавін.

## ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

Каб спыніць дыскрымінацыю карэннага этнасу, патрабуем забяспечыць грамадзянам Беларусі канстытуцыйнае права на атрыманне вышэйшай адукацыі па-беларуску.

Для гэтага патрабуем стварэння Беларускага нацыянальнага універсітэта

| № | Прозвішча, імя , імя па бацьку | Адрас | Дата | Подпіс |
|---|---|---|---|---|
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |
| | | | | |

## Аповесць пра словы

### Рыдлёўка

Упершыню рыдлёўку прыдумалі старажытныя грэкі дзесьці ў X ст. да нашай эры. Доўгі час ручка рыдлёўкі і шырокае лязо (штык) выраблялiся з дрэва. Па краёх лязо было акаванае вузкай палоскай жалеза, прыбітай каванымі цвікамі. У беларусаў рыдлёўка, як ручная прылада для капання зямлі, з'явілася, як і ў іншых славян, у IX – X стст. Дзякуючы рыдлёўцы нашыя продкі ўзвялі велічныя земляныя замкавыя валы і глыбокія ірвы вакол іх. Асаблівую ролю рыдлёўка стала выконваць у познім сярэднявеччы, калі ўзніклі бастыённыя замкі, а шмат якія беларускія гарады (у тым ліку і Менск) атрымалі бастыённыя ўмацаванні. У гэтыя часы з'явілася спецыяльная прафесія – грабар. Прычым грабарствам займаліся не толькі мужчыны, але і кабеты.

Менавіта беларускія грабары выкапалі адзін з першых у Еўропе канал Агінскага, які з'явіўся у XУIII ст. і злучыў басейны Балтыйскага і Чорнага мораў.

Пасля захопу Беларусі Расейскай імперыяй грабарская праца стала адной з візітных картак тагачаснага беларускага прыгоннага селяніна. Тысячы грабароў па загаду рускага цара спачатку разбурылі і знеслі славутыя беларускія гарады Бярэсце і Бабруйск, а потым збудавалі на іх месцы Брэсцкую і Бабруйскую крэпасці. Адным з самых знакамітых спецыялістаў у земляных, грабарскіх, абарончых працах быў славуты беларускі гісторык Тэадор Нарбут.

У другой палове XIX ст. беларускія грабары ўручную насыпалі тысячы вёрстаў чыгуначных шляхоў на неахопных прасторах Расейскай імперыі.

У пачатку XX ст. з'явіліся цалкам металічныя рыдлёўкі, і попыт на іх значна павялічыўся.

Са зменай ваеннай тактыкі ў часе Першай сусветнай вайны Беларусь з поўдня на поўнач парэзала стужка нямецка-рускіх акопаў і бліндажоў, сляды якіх захаваліся да нашых дзён. Каб выкапаць іх, акрамя салдат, былі прыцягнуты сотні тысячаў беларускіх сялян-грабароў.

У XX стагоддзі менавіта рыдлёўка выратавала беларусаў ад галоднай смерці, бо вельмі часта ў сялян забіралі апошняга каня, і зямлю з ранку да вечара апрацоўвалі толькі рыдлёўкамі.

Пасля калектывізацыі рыдлёўку не выпускаюць з рук тысячы вязняў сталінскага ГУЛАГу. Менавіта з іх працы ўзніклі Беламорска-Балтыйскі канал ды сотні будоўляў сталінскага сацыялізму.

Зараз рыдлёўка стала сімвалам "рынкавага сацыялізму". Тысячы працоўных і службоўцаў з Менску і іншых гарадоў Беларусі, каб пракарміць свае сем'і, з вясны да восені не выпускаюць рыдлёўку з рук, апрацоўваючы ёю свае дзялкі.

*Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук.*

### Штык

Першыя штыкі ( а гэта – халодная калючая зброя ў выглядзе вялікага нажа, прыладкаванага на канец ружжа, вінтоўкі, карабіна ці аўтамата) з'явілася масава на ўзбраенні некаторых еўрапейскіх армій у XУIII ст.

Упершыню беларусы паспыталі смак штыка ад рускіх "чудо-богатырей" пад кіраўніцтвам Аляксандра Суворава ў бітве пад Сталовічамі недалёка ад Слоніма. Аднак беларускія жаўнеры на чале з гетманам Агінскім не разгубіліся і выставілі наперад салдат-касінераў. Супраць беларускай касы славуты рускі штык апынуўся не на вышыні, і Сувораў ледзь выйграў бітву, дзякуючы толькі значнай перавазе ў гарматах. У шматлікіх паўстаннях XУIII і XIX стст. беларускія касінеры ўяўлялі значную ўзброеную сілу, а сялянская каса стала беларускім штыком.

Пасля задушэння паўстання Каліноўскага віленскі губернатар па мянушцы "Мураўёў-вісельнік" выказаўся адназначна: "Што не зрабіў у мясцовых краях рускі штык, павінна зрабіць руская школа". І пачалася татальная русіфікацыя Беларусі, дзе замест штыка ўжываліся пяро рускага настаўніка і праваслаўны крыж рускага святара.



Штыкі і багінет

У часе Першай сусветнай вайны беларусы ўбачылі і нямецкія штыкі. Пад уплывам нямецкай мовы слова "штык" стала вымаўляцца як "штых".

У віхуры грамадзянскай вайны беларуская кроў лілася на бальшавіцкіх і польскіх штыхах. Гранёны рускі штык, прымацаваны да рулі трохлінейнай вінтоўкі сістэмы Мосіна, на 75 гадоў стаў адным з сімвалаў кастрычніцкага бальшавіцкага перавароту. Апошні раз у XX ст. беларускія жаўнеры ўзялі ў свае рукі штыкі ў 1920 годзе на Случчыне, каб бараніць сваю волю і незалежнасць.

*Алег Трусаў, кандыдат гістарычных навук.*

наша слова № 8 (445) 23 ЛЮТАГА 2000 г. Ад родных ніў 5

Уладзімір Содаль

# БЕЛАРУСКІЯ ДУМКІ



### КАМУ ЗАМІНАЕ НАША МОВА?

Гавораць, што мова наша памірае натуральна... Але гэта не зусім так. Яе забіваюць, яе душаць. Калі б наша мова жыла натуральна, яна б ніколі-ніколі б не загінула, бо з прыроды яна вечная.

Часам, нас суцяшаюць, кажуць такое: "Чаго шуміце", чаго турбуецеся? Мова ваша не загіне, жыве і будзе жыць!"

Вядома ж, будзе жыць, калі яе не будуць забіваць, душыць. А гэта якраз робіцца не адно стагоддзе.

З гэтай нагоды падумалася і такое... Гэта бясспрэчна, што нашу мову ганьбяць, ганьбуюць, і душаць, прыніжаюць, забіваюць, ігнаруюць. Але хто і чаму? І навошта? Каму замінае наша мова? Няўжо славянству? Дык, здаецца, наша славянства спагаднае да беларускасці. То якая ж сіла кіруе тымі, хто з гэткай лютай нянавісцю і пагардай нападае на беларускасць? Цяжка адказаць. Але дакладна ведаю: гэта дзікунства, варварства. Гэта духоўны разбой. Але адкуль яны у ціхамірнага славяніна? Можа гэты духоўны разбой перадаўся нашым суграмадзянам і суседзям праз змушанае паняволенае супольніцтва з азіятамі з часоў іхняга нашэсця? Гэта ж яны хацелі вынішчыць сваімі паходамі наша славянства, ды не ўдалося. Не ўдалося вайсковымі набегамі, дык гэтае руйнаванне працягваецца іхнім азіяцкім духам, які падаўся праз сумеснае супольніцтва.

Толькі гэтак можна патлумачыць гэтую наўтомную працу выбіць з славянскага ланцужка беларускае звяно.

Кажуць, мова забываецца, калі ёй не карыстаюцца. Я праз усё сваё жыццё, за выняткам 1956-1958 гадоў, калі жыў у далёкім Мурманску, паслугуюся толькі сваёй роднай мовай: на ёй пішу, чытаю, разважаю, сню сны. На расейскай я адно толькі чытаю. А праз ўсё жыццё толькі адно ў роднай мове жыву: хвіліна ад хвіліны, дзень пры дні: праз усе свае шэсцьдзесят гадоў. Тым не менш, расейская мова з мяне не выветрылася. Калі трэба, я магу і напісаць што-кольвек па-расейску, пагаманіць з расіянамі-расейцамі ці з кім іншым, хто захоча з мною на гэтай мове загаварыць. Дык як жа можна забыць тое, што маеш? Як можна верыць тым, хто такое кажа?! Калі б гэта так усё лёгка і проста было, дык чалавецтва б забыла ўсю практыку ўсіх папярэдніх пакаленняў і ўсё б пачынала з нуля.

Беларуская мова! Родная мова!.. Чаму для адных ты бальзам жывых крыніц, радасць і ўцеха, натхненне і ўпава? Іншых жа чамусьці, пры згадцы пра цябе, ліхаманка калоціць, як ад якой пачвары. Чаму так? Хто гэта зрабіў? Мова ж, словы ні ў чым не вінаваты.

Вінаватыя ва ўсім, безумоўна, людзі, іх псапсутная псіхалогія. Нехта ж гэтых людзей наладзіў на такую непрыязнь. Але ці можна зрабіць так, каб беларуская мова стала для ўсіх бальзамам жывых крыніц?

Безумоўна! Як? Праз адпаведнае выхаванне.

Што гэта дасць? Мова аб'яднае нас у адно грамадства. Мы будзем лепш адзін аднаго разумець. Зараз жа мы ўсё раз'яднаныя. Мовай таксама. І гэта вельмі шкодзіць нашай грамадзе, нашай культуры, яе росквіту. Нічога новага тут не сказана. Але пакуль уся наша грамада не зразумее гэтага, трэба нагадваць і вядомае. І неаднаразова. Мову трэба любіць, як сваё дзіця, як сваіх бацькоў, як сонца, як прыроду. Любім жа мы сваё дзіцё, якое яно б не было, якое б яно не ўдалося: прыгожае ці не вельмі, хворае ці здаровае. Бо яно наша!

Тое ж і пра мову. Любіце яе, шануйце яе, пакутуйце за яе, якая б яна не была, бо яна наша!

Сваё яно заўсёды сваё. Хто свайго не мае, той вечна жабруе.

То ці ж нам вечна жабракамі быць, маючы сваё?!

Любіце мову, як сваю хатку, як свой кут!

Самі ведаеце, што лепей свая хатка, як папіхайства. Лепей быць гаспадаром, чым кватарантам!

То якія яшчэ трэба довады, што ўсё сваё, якое б яно не было, лепшае за чужое. А калі ў нас што трохі не так, то хіба мы не маем рук ды галоў, каб зрабіць на лепшае?

Вядома ж ёсць! І Спадчыну багатую маем..

То кіньма вачыма пагледаць на суседскае ды зіхаць, што ў іх штосьці лепшае, як у нас! Закасайма рукавы ды працуйма так, каб сваё і сабе спадабалася, і людзі заглядзеліся.

Што для гэтага трэба? А няшмат. Трохі гонару, трохі душы... І ўсё тое, што маем, што набылі за вякі.

І ўсё ў нас зазіхацць: і мова, і мастацтва, гарады і вёскі, і мы самі. То ўстрапянемся ж, беларусы! І нас запаважаюць ва ўсім свеце. І суседзі таксама – блізкія і больш далёкія!

Даўней, ды і зараз на Беларусі шмат гаворыцца пра іх славянскую еднасць, пра збліжэнне славянскіх народаў – і найперш пра збліжэнне беларускага, расейскага і ўкраінскага. Што ж, ідэя зразумелая, прыймальная. Але вось, як хто гэта ўяўляе і разумее гэтае збліжэнне, - тут пакуль што пануе погляд адзін: ва ўсім гэтым збліжэнні павінна запанаваць расейская мова, расейскі менталітэт. Вось гэта і ўсё збліжэнне.

А што будзе з беларускай і ўкраінскай моваю, з беларускаю культураю, гісторыяй, песьняю? – На гэта адказу няма. Але ён напрошваецца сам. Усё гэта павінна сысці, знікнуць. Але дзеля чаго, навошта? Што ў свеце з гэтым прыбавіцца, дадасца?

Што лепей – тры браты ці адзін? Тры песні – ці адна? Тры гатункі яблыкаў – ці адзін?

Пытанні не новыя, але тымсім забытыя ў сваім незразумелым, я бы сказаў, безразважным памкненні. Шляхоў для збліжэння шмат. Адны з іх грубыя, жорсткія, драпежныя, варварскія. Вось гэтым шляхам ужо цэлымі стагоддзямі імкнуцца "зблізіць" між сабою беларусаў, украінцаў і расейцаў. Ці больш дакладна – імкнуцца падагнаць, падпарадкаваць пад расейскі капыл беларусаў і ўкраінцаў.

І што ж? Пэўны поспех у гэтым ёсць. Але якім коштам, якою цаною? І праз фізічнае вынішчэнне, і праз глум і здзек, душэўны надлом. І дзеля чаго ўсё гэта?

І самае галоўнае – адбываецца зусім не збліжэнне, а раствярэнне беларускай і ўкраінскай нацыяў у расейскай.

Ну, але ці ёсць нейкі аптымальны, натуральны працэс збліжэння трох славянскіх народаў?

Безумоўна. Алe чамусьці пра яго нідзе пакуль што не гаварылі, не разважалі.

Пра які іншы шлях збліжэння трох народаў я тут згадваю?

А вось пра які...

Беларусы, гэтак жа, як і ўкраінцы, ужо не адно дзесяцігоддзе вывучаюць, з ахвотай і паспяхова, і расейскую мову, і расейскую літаратуру.

А што расейцы? Можа яны таксама на нашу ўзаемнасць прагнуць, калі не вывучаць, то хоць пазнаёміцца з нашымі мовамі, з нашымі літаратурамі, з нашай гісторыяй. А чаму б і не пазнаёміць старшакласнікаў расейскіх школ з украінскай ды беларускай мовамі ды літаратурай? Нехта скажа – вось да чаго дадумаўся! Але не спяшаецеся з суровым прысудам – нашы народы могуць і павінны спазнаваць адзін аднаго... Хіба гэта не шлях да збліжэння?

Мы ж увесь час цвердзім: нашы мовы блізкія, родныя, з аднаго кораня. То хіба б расейцам зашкодзіла спазнаць праз нас свае агульныя карані? Ці яшчэ. Хіба б не шкодзіла дзеля гэтага нашага славянства заснаваць пакуль што такую газету, у якой бы матэрыялы з Беларусі друкаваліся па-беларуску, украінскія - па-украінску, расейскія – па-расейску. Хай бы праз такую газету і ішло збліжэнне нашых народаў. І гэта не ўтопія...

Такой газеты яшчэ ніколі не выдавалася. Нават думка не падавалася такая.

А я вось падаю яе, бо я таксама прыхільнік нашага Збліжэння, нашага яднання, але не гвалтам, а праз пазнанне адзін аднаго.

### А КАЛІ НААДВАРОТ...

Вам, мусіць, таксама не аднойчы даводзілася чуць, як украінцы, расейцы, ды і палякі, разважаючы пра нашу беларускую мову часта кажуць: " В вашем языке очень много русских слов". Па-украінску гэта гучыць так: "То о цэ ўсё наша!".

Ну і моўчкі глытаем такія "адкрыцці", пагаджаемся з імі, забываючы пра адзін вельмі важны нюанс: на Беларусі славяншчына найстаражытнейшая і найчысцейшая. Гэта абгрунтавана вучонымі – славістамі ўсяго свету, дый мы і самі гэта адчуваем. То можа пара перахапіць ініцыятыву? Можа пара сказаць нашым суседзям: "Ой, людцы добрыя, колькі ў вашых мовах (украінскай, рускай, польскай) беларускіх слоў!" А тады пабачым, якая будзе рэакцыя, які будзе рэзананс!

І гэта не дзіцячая гульня. Гэта палітыка! Гэта і хвароба нашых суседзяў. Гэта і псіхалогія! Ну, а калі ўжо ўкраінцы, палякі ды рускія часам пакрыўдзяцца на беларусаў за іхнюю такую "дзёрзкасць", то мы можам і сціхнуць! Але, шаноўныя суседзі, - не кажыце і вы нам гэтага, бо яшчэ трэба добра пагледзець, хто ад каго пераняў нашы цяпер агульныя словы. Наша інтуіцыя нам падказвае, што шмат чаго прыйшло ў вашы мовы і з Белай Русі, асабліва ва ўкраінскую, але склаліся такія палітычныя варунці, што мы доўгі час не адважваліся абараніць свой гонар, пакорліва пагаджаліся з усім, што нам казалі пра нас нашы суседзі – добрае ці кепскае.

Ну але, мусіць, настала пара выказаць і няэгоду з некаторымі думкамі сваіх суседзяў – і з афіцыйнымі, і з тымі, што існуюць на пабытовым узроўні, але маюць даўнюю пагалоску.

### ЗРАЗУМЕЛАЯ, БЛІЗКАЯ АЛЕ...

... Здаецца, усе і даўно прыйшлі да адной думкі, да аднае высновы – беларуская і расійская мовы вельмі блізкія, зразумелыя паходзяць з аднаго кораня. Беларусу і расейцу перакладчыкі непатрэбныя. Так гавораць даўно і я б хацеў пагадзіцца з гэтым, але чаму ж тады, як толькі прыязджае які госць з Расеі, усе беларусы пераходзяць на расейскую мову. З павагі да госця? Што ж, можна з гэтым пагадзіцца. Наш жэст ветлівасці можна зразумець. Але такі жэст ветлівасці мог быць і з боку расейскага візіцёра, які б мог, прыкладам сказаць так: "Ничиво, ничиво. Разговаривайте по-белорусски. Мне даже интересно". Але, на жаль пакуль нашы высокія госці ў такія моманты маўчаць.

Не навучыліся пакуль выказваць павагу да народа паводле іх слоў "издревле родного", з якім хочуць ладзіць, сябраваць. Але гаварыць дэмагагічна пра роўнасць і блізкасць вялікія мастакі. Якраз так было і пры сустрэчы з Ельцыным у Вярхоўнай Радзе Беларусі. Шаноўны госць таксама не мінуў сказаць пра роднасць, блізкасць нашых моў, што нам перакладчыкі не патрэбныя. Ну і вядома перакладчыкі не спатрэбіліся. У гонар госця з Расеі сесія перайшла на расейскую мову. Вось вам і мовы блізкія , зразумелыя!

Не ведаю, як хто, але я адчуваю сябе ніякавата: рускі чалавек не разумее беларускай мовы не разумее мовы блізкага народа, не хоча слухаць беларускай мовы?

Чаму ж украінцы з беларусамі гавораць па-украінску, а мы з імі па-беларуску і цалкам разумеемся. А вось, калі толькі з'явіцца расейскі брат адразу пачынаюцца згаданыя выбачэнні.

Беларуская мова па духу сваім была і будзе гаспадыняй на Беларусі, якія б законы не прымалі. А ўсё іншае, што мецьму рабіцца на нашай зямлі не на беларускай мове, асабліва там, дзе паводле самой прыроды і сутнасці павінна гучаць беларуская мова, заўсёды будзе ўспрымацца як гвалт, ненатуральнасць, а усе яе носьбіты беларускага паходжання, а менавіта пра іх ідзе найперш наша гаворка, будуць успрымацца як крыўлякі, недавяркі, крывадушнікі, богаадступнікі, здрайцы. І гэта не я кажу, не зусім я. Гэта кажа логіка жыцця, гэта такі ж спрадвечны закон прыроды. Я ж толькі яго адчуў, звёў у думку, таму не крыўдуйце на мяне, не пагражайце мне. Не прыдумлівайце мне ніякіх -ізмаў: крыўдуйце на саміх сябе. Дакарайце самі сябе, наракайце самі на сябе. Я толькі сказаў праўду. А праўда такая: пакуль жыве на свеце хоць адзін беларус, ён вам і суддзя, і за ім апошняе слова.

... Пра тое, як жыў і жыве беларускі народ заўсёды меркавалі і будуць меркаваць не па тых, хто адмаўляе, ігнаруе беларушчыну, грэбуе ёй, не прызнае, а па тых, хто яе стварае, руліцца. Не сядзіць склаўшы рукі, а хто рухаў і рухае беларускую ідэю, развіваў і развівае яе.

Усе ж, хто сваім дзённым ідэалам зрабіў кілбасу, мяса, гарэлку ды іншыя выгоды для жывата, гэтак і застануцца па-за нашай гісторыяй. Ад іх не застанецца ні пуху, ні духу, хоць ім і здаецца, што гэта яны творцы жыцця і яго пуп. Яны забываюцца пра тое, што ад чалавека застаецца дух, а не пух.

### ДЗЕ Ж МОЙ ПРЭЗІДЭНТ?

Ва ўсім свеце прэзідэнты ўсіх краінаў віншуюць сваіх грамадзянаў з Новым годам праз тэлевізійны экран. Гэта ўжо стала добрай традыцыяй. Віншуюць свае народы на сваіх родных мовах. А як жа інакш! Іншае і ў голаў не прыходзіць! А як жа з гэтым у нас на Беларусі? А ў нас вядома як! Вось ужо каторы год з Новым Годам грамадзянаў Беларусі віншуе з тэлевізійнага экрана сп. А. Лукашэнка. Віншуе на варыянце расейскае мовы. А хто ж павіншуе з Новым Годам нас – тых, для каго родная мова – найдаражэйшы скарб? Такіх віншаванняў няма ўжо каторы год, быццам на свеце няма ні нас, ні нашае мовы. Але ж мы ёсць, і нам хочацца кожны дзень, кожную хвіліну жыць у сваёй роднай мове – і ў святы, і ў будні. У перадначаговую і наваговую ноч таксама. Ці збудзецца гэта хоць калі? У нашай жа краіне дзве дзяржаўныя мовы. Чаму ж адна з іх – тая, з якой нас Бог пусціў у свет, маўчыць у такія ўрачыстыя і непаўторныя моманты?

*Наша мова для нас святая,*
*Бо нам яна ад Бога дана...*
*Францішак Багушэвіч.*

# Духоўная старонка

## *Жыў любоўю да Беларусі*

### ПАМЯЦІ ЯНА МАТУСЕВІЧА

**На жыццёвым шляху мы сустракаем многа розных людзей.** І хоць кожны чалавек унікальны і па-свойму своеасаблівы, але ўсё ж не ўсе адкрываюць нам свой унутраны духоўны багаты свет і гэтым вельмі ўзбагачаюць нашае жыццё.

Я ўдзячны Богу за тое, што пазнаёміў мяне з айцом Янам – чалавекам няпростага лёсу. Складанасці жыцця не зламалі гэтага чалавека, а, наадварот, паглыбілі яго лепшыя духоўныя якасці, дабрыню, светлы аптымізм, жыццярадаснасць, вернасць Госпаду Богу і адданасць справе служэння Яму, людзям і Айчыне.

Айцец Ян дзіўна спалучаў у сабе чысціню душы і высокі інтэлект, тонкае пачуццё гумару, кемлівасць, артыстызм. Таму Гасподзь Бог і паклікаў яго на цярністы шлях святарства.

Сталасць Яна Матусевіча прыпала на 70-ыя гады, калі ў Беларусі служылі лічаныя хрысціянскія святары (як праваслаўныя, так і каталіцкія), калі людзі літаральна задыхаліся ад недахопу духоўнасці. Здольнасці і энергічнасць адкрывалі перад Янам Матусевічам вялікі выбар прафесій. Голас сумлення, да якога ён прыслухаўся, накіраваў яго на святарскую паслугу, на карысць беларускаму народу. Шчырая любоў да Беларусі заўсёды жыла ў ім і рабіла яго няўрымслівым, нераўнадушным да лёсу Бацькаўшчыны. Немагчыма памагчы людзям, не дапамагаючы роднаму краю.

Патрыятызм айца Яна быў актыўным і плённым, бо сілу даваў Гасподзь Бог. Як святар, ён заўсёды маліўся аб дабры для люду паспалітага і будучыні. Як сапраўдны сын свайго народа, ён увабраў у сябе яго лепшыя рысы. Больш за тое, айцец Ян сваім жыццём адлюстроўваў спрадвечны выбар беларускага шляху, найперш – культурна-рэлігійнага.

Сваю душпастырскую дзейнасць айцец Ян распачаў як праваслаўны святар, якога на гэтую працу блаславіў Яго Высокапрэасвяшчэнства мітрапаліт Філарэт.

Айцец Ян быў блаславёны таксама і святой памяці Прымасам Польшчы кардыналам Стэфанам Вышынскім, калі з'явілася магчымасць нарэшце стаць каталіцкім святаром, пра што айцец Ян марыў заўсёды. Але перад гэтым духоўным крокам айцец Ян стаў на калені перад мітрапалітам Філарэтам і папрасіў аб блаславленні на далейшую душпастырскую службу ў рыма-каталіцкім касцёле, на што атрымаў згоду. Беларусь ад даўна стала зямлёю прымірэння Заходняга каталіцкага і Усходняга праваслаўнага хрысціянства.

Продкі айца Яна былі ўніятамі – грэка-каталікамі, пра што ён заўсёды памятаў. І як толькі з'явілася магчымасць аднаўлення уніяцкай царквы ў Беларусі, айцец Ян стаў адным з першых уніяцкіх святароў і быў прызначаны апостальскай сталіцай дэканам – каб апекаваўся ўсімі даверанымі яму святарамі і парафіямі.

Не няўрымслівасць штурхала айца Яна з адной канфесіі ў другую. Ён шукаў сябе і змог знайсці толькі ў вялікім пасвячэнні, цярпенні і адзіноце. Ён меў магчымасць спакойнага служэння як святар ці то ў праваслаўнай царкве, ці ў рыма-каталіцкім касцёле, але айцец Ян прагнуў прынесці сваім прызваннем найбольш хвалы і карысці Госпаду Богу і Бацькаўшчыне, цалкам рэалізаваць сябе. І знайшоў сябе ў грэка-каталіцкай царкве. Уніяцтва стала тым шляхам, які айцец Ян абраў, і выбар гэты быў канчатковы.

Безумоўна, лёс айца Яна унікальны і непаўторны, але адначасова і невыпадковы для беларуса, як бы аб'ектыўна запраграмаваны. Жыццё і дзейнасць яго патрабуюць дэталёвага вывучэння. Толькі на першы погляд можа падацца, што Ян Матусевіч шукаў лёгкай дарогі. Не спакою, не ўтульнасці і не карысці хацеў айцец Ян. Яго інтарэсы палягалі ў зусім іншай сферы – максімальна спраўдзіць сябе як асобу, як патрыёта, як хрысціянскага святара.

Ствараючы жыццяпіс айца Яна, аддаючы яму даніну памяці, тым самым спазнаем спецыфіку гістарычнага лёсу нашых канфесій у Беларусі і лёс самой Беларусі, асабліва<br>сці яе апошняга дня. Пазнаем самік сябе, хто мы і чаго вартыя, які ўклад і якая нашая дзейнасць для духоўнага адраджэння, гістарычнага следу, цаглінкі ва ўсеагульны чалавечы дом.

Сур'ёзная праца ў такім кірунку магла б дапамагчы зразумець вытокі і характар вядомай беларускай талерантнасці, пэўней вызначыць сэнс і значэнне экуменізму як прымірэння хрысціянскіх канфесій.

Пастаянны пошук айца Яна быў не з лёгкіх, ён вымагаў вялікіх выпрабаванняў і не заўсёды меў станоўчыя ацэнкі як з боку свецкіх асоб, так і духавенства. Пракладваць сваю дарогу заўсёды цяжэй, чым ісці па пракладзенай іншымі, але ж кожны з нас павінен ісці менавіта сваёй дарогай, разумна і дастойна выконваючы дадзеную і наканаваную Богам сваю місію на зямлі. Але акурат святар, як ніхто іншы, мусіць трываць да канца ў службе Богу, народу, Айчыне. Лекар, інжынер, вучоны, мастак, пісьменнік можа выехаць за мяжу, у іншую краіну, дзе будзе лепш жыць яму і яго сям'і. Святар застаецца заўсёды там і з тымі, дзе цяжэй, і дзеліць смутак і гора са сваім народам, з людзьмі, нават пад пагрозаю смерці.

Аб ахвярнасці святароў маем прыклад айцоў Кашыры і Ляшчэвіча – ксяндзоў з парафіі Росіца. 17- 18 лютага 1943 года падчас карнай экспедыцыі супраць партызан немцы прапанавалі ім выехаць з вёскі, але яны адмовіліся і засталіся са сваімі вернікамі: 17 лютага згарэў жывым разам з парафіянамі айцец Ляшчэвіч, а 18 лютага пайшоў у полымя святар Кашыра.

Як шчыры прыхільнік і знаўца беларускай культуры, айцец Ян быў частым госцем і ўдзельнікам навуковых канферэнцый, "круглых сталоў", сустрэч, несучы Божае слова да нашай духоўна кволай, абяскроўленай інтэлігенцыі.

Да сённяшняга дня Беларусь яшчэ не нарадзіла таленавітых хрысціянскіх (незалежна, каталіцкіх ці праваслаўных) паэтаў, мастакоў, пісьменнікаў, кампазітараў, мысліцеляў, філосафаў. У шматлікіх магазінах і ларках, прапануецца розная літаратура, але – якая? Пераклады, але – чаго і каго? Атэізм не толькі разбурыў і знішчыў духоўнасць у сем'ях, гэта адбіваецца і ў пакаленнях.

Як сапраўдны беларускі інтэлігент і інтэлектуал, айцец Ян здолеў пакласці сваю цаглінку ў Беларускі Дом. Ад пачатку 90-х гадоў ён вельмі многа дапамагаў мне ва ўсіх магчымых душпастырскіх працах. Асабліва ўдзячны яму за душпастырскую дапамогу ў абслузе хворых, спавяданні вернікаў. Найперш у 89 – 93 гадах, калі ў Менску надзвычай адчуваўся недахоп святароў: тут на той час нас было толькі двое.

На Кальварыі пробашчам быў святой памяці ксёндз Ян Адамовіч, а парафіяй быў увесь Менск і прылеглыя раёны ад Радашковічаў да Барысава, Магілёва, Жодзіна, Бабруйска, Дзяржынска. Пасля, дзякуй Добраму Богу, прыйшоў шаноўны ксёндз Міхал Сапель, ксёндз Альберт Масальскі і іншыя... Але хачу з усёй шчырасцю і ўдзячнасцю сказаць, што айцец Ян заўсёды дапамагаў мне ў душпастырскай паслузе людзям, гэта ведае ўвесь Менск, а таксама вернікі і далёка па-за Менскам.

Парафіяне яго любілі і шанавалі. У ліпені 1998 года айцец Ян адзначыў сваё 50-годдзе і 24 гады святарства. У касцёле св. Сымона і св. Алены сабралася тады вялікая колькасць духавенства і вернікаў. Яшчэ больш людзей прыйшло ў касцёл у дзень яго пахавання, каб не толькі развітацца з айцом Янам. Два дні і дзве ночы людзі маліліся ля труны, ушаноўвалі чалавека і святара.

Хвароба айца была нечаканай. У тыя цяжкія хвіліны я выканаў святарскі абавязак прыгатавання айца Яна ў апошнюю дарогу: споведзь, намашчэння хворага, святая Камунія. Я ўладкаваў айца Яна ў шпіталь, наведваў яго там. Пасля прыступу інсульту айцец Ян пражыў усяго два дні.

У маёй памяці ён назаўсёды застанецца святаром з душой крыштальнай чысціні, разумнай дабрынёй, ён вытрываў у службе Богу да канца.

Хоць сам цяпер многа, перажываў за лёс хрысціянства ў Беларусі, але ніколі не чарніў ані людзей, ані веравызнанні. У яго сэрцы, жыцці быў своеасаблівы экуменізм, можа, таму, што так склалася яго святарскае жыццё – быць святаром у абодвух веравызнаннях і ва уніяцкім абрадзе. Дзякуючы такому лёсу ён адчуў усё на сабе і стаў святаром шырокай душы, па-над бар'ерамі, якія нас дзеляць. Такое адчуванне, што ўсе мы, хоць і хрысціяне, але замала ўзносім сэрцы ў неба, да Бога. А калі глядзім толькі пад ногі, нікога і нічога не бачачы, куды зойдзем?

Дзякуй Госпаду Богу за знаёмства з гэтым чалавекам, за магчымасць штосьці добрае зрабіць і паслужыць яму, а праз яго і многім людзям.

Мае самыя чыстасардэчныя спачуванні маці айца Яна, перад якою нізка схіляю галаву, бо са мною – мая маці, якая дзеліць мой святарскі лёс.

*Кс. Уладзіслаў*
***ЗАВАЛЬНЮК,***
*пробашч касцёла*
*св. Сымона і св. Алены.*

***Паважаная рэдакцыя.***

Хачу зрабіць некалькі заўваг адносна артыкула І. Землякова "Калі ў касцёле парасейску" ад 26 студзеня 2000г. "Наша слова" № 4. Мне не хочацца спрачацца з аўтарам заметкі, бо адразу бачна, што чалавек не звязаны з Віцебскай святыняй справамі, магчыма нават не цікавіцца гісторыяй яе адраджэння. Зазначу, што я і сам ні разу не быў у Віцебску, але цікавячыся справамі адраджэння касцёла на Беларусі, ведаю, як няпроста было адбудаваць знішчаную святыню.

Аналізуючы артыкул бачна, што ксёндз у Віцебску напэўна паляк па нацыянальнасці. Вядома, што ў Польшчы ў сярэдніх школах вывучалі не беларускую мову, а рускую. У духоўнай семінарыі таксама ён з беларускай мовай не сустракаўся. З такім багажом ён і быў запрошаны ў Беларусь і не дзеля таго, каб нас навучаць беларускай мове, а каб узняць з руін касцёл і згуртаваць парафію. Спраў было напэўна, ох як шмат і ён зноў не вельмі авалодваў нашай мовай. І вось у 1999 г. на Божае Нараджэнне, ужо ў кафедральным касцёле, шмат вернікаў і служба ідзе "беларускімі словамі" падобнымі на "рускую мову" з "польскім акцэнтам". Тут няма ніякага жаху. Звычайна імша ідзе па канону і калі там крыху акцэнт, то і нічога жахлівага. Другая справа, калі ідзе навука – тут, калі чалавек не дасканала ведае мову, то без паперкі не абыйдзешся шчырыя людзі, калі гавораць ад сэрца, стараюцца выказваць свае думкі на той мове, якую больш ведаюць. Ксёндз напэўна скарыстаўся рускай (хоць мог і польскай).

Мы яму гэта павінны прабачыць. Не сумняваюся, што парафіяне яму гэта прабачаюць. А беларускай мовай ён, безумоўна, авалодае і будзе ёй з поспехам карыстацца, а можа ён ёй і карыстаўся ў поўнач з 24 на 25 снежня, бо, менавіта, тады вернікі і прывіталі нараджэнне Хрыста, а паважаны аўтар артыкула на гэтай імшы не быў.

Вядома мае разважанні не з'яўляюцца артыкулам. Але хацелася, каб з маіх думак і меркаванняў рэдакцыя магла сфармаваць невялічкую нататку, каб выправіць той перагін, які суб'ектыўна дапускае Ігар Землякоў. Тым больш, што нядаўна ў перадачы "Сёння з вамі" на Беларускім тэлебачанні прыняў удзел біскуп новай Віцебскай дыяцэзіі і запэўніў менавіта ў тым, што службы будуць адпраўляцца на роднай мове.

А пакуль што касцёлу трэба больш дапамагаць, чым крытыкаваць. Не хапае беларускіх ксяндзоў, малітоўнікаў, спеўнікаў, кіраўнікоў хору, арганістаў і многага яшчэ. Недастаткова таго, каб зайсці і паслухаць, якая мова гучыць у касцеле, яго трэба адраджаць, як і ўсё нацыянальнае. А пакуль што, калі ў некаторых імшах гучаць, нават, словы з нямецкім ці з італьянскім акцэнтам, мы не жахнемся, а прымем з увагай. Я ўпэўнены – у Віцебску ўсё добра, і так хочацца пабываць у адбудаванай катэдры, паслухаць, як вядзе імшу новы біскуп Блін, ці які – небудзь другі святар, парадавацца поспехам Віцебскай парафіі.

***З павагай С. Шыманоўскі.***

## *...Каб не грашыла "Узнёслае і зямное"*

У нядзельку рана па беларускаму радыё гучыць духоўнае слова беларускай праваслаўнай царквы "Узнёслае і зямное". Духоўнае слова для беларусаў па-руску. Я вельмі ўдзячны творцам гэтай перадачы і з вялікім задавальненнем слухаю гэтае слова. Але аднойчы я пачуў такое, з чым не магу пагадзіцца, і хоць ужо прайшло нямала часу, крыўда застаецца ў душы. Мяне і многіх маіх суайчыннікаў, хто змагаецца за выратаванне беларускага слова і культуры, назвалі грэшнікамі. Грэшнікамі... , бо мы жадаем каб у беларускіх праваслаўных храмах гучала беларускае духоўнае слова. У Беларусі – па беларуску. Ці ж гэта грэх?

У той перадачы гаварылася, што многія кінуліся вывучаць "ангельскую" і беларускую мову. Што яны будуць працаваць і тварыць на Захадзе, а не ў сябе на Радзіме. Трэба пагадзіцца з тым, што многія (!) беларусы, а беларусамі я называю ўсіх, хто жыве на Беларусі, ужо з першага класа вывучаюць замежную мову. А беларускую пачынаюць вывучаць з другога класа. А павінна быць наадварот.

У той жа перадачы я пачуў абразлівыя словы пра В. Дуніна-Марцінкевіча і Я. Купалу. Хіба саграшыў В.Дунін-Марцінкевіч, што ў сваёй п'есе "Пінская шляхта" высмеяў высокага хама-чыноўніка "найяснейшую карону" Кручкова, які гаворыць па руска-беларуску. А хіба заграшыў Я. Купала, што ў сваёй п'есе "Паўлінка" паказаў хама-пана Быкоўскага з яго пагардлівай фразай – "Фі, беларускае". Паглядзіце і сёння на многіх нашых чыноўнікаў. Колькі сярод іх Кручковых і Быкоўскіх!

Я хачу, каб не грашыла "Узнёслае і зямное", бо ці можна папракаць беларусаў за беларускае слова. І, калі быць шчырым і было б справядліва, каб "Узнёслае і зямное" гучала не на рускай, а на беларускай мове.

І яшчэ хачу сказаць, што мы (праваслаўныя) з вялікім задавальненнем слухаем беларускае духоўнае слова каталіцкага ксяндза Уладзіслава Завальнюка, бо гэта яшчэ і беларускае слова.

*Андрэй Юшкевіч, г. Ліда.*

# Давайце спяваць па-беларуску

## ФЭСТ

Музыка і словы Міхася Скундзя







Вясёлыя хлопцы па краі вандруюць,  
Граюць і радуюць песняй сваёй.  
І слухаюць людзі чароўныя гукі,  
Музык абступаючы цеснай гурбой.

*Прыпеў:*  
Фэст, фэст, фэст сёння будзе.  
Фэст, фэст, мілыя людзі!  
Добрую песню зайграе  
І з пачуццём заспявае,  
Шчырую песню зайграе,  
Песняй вітаючы вас.

Народнае музыкі льецца крыніца  
І птушкай ў абшар навакольны ляціць.  
Забудзь ты пра беды, прыходзь весяліцца,  
Дзе грае гармонік і скрыпка звініць.

*Прыпеў.*

# *Жывая кніга прыроды*

**Для педагогаў дашкольных устаноў. Укладальнік Ірына Марачкіна**

## УКАГО НАЙЛЕПШ У ХАЦЕ

Сярод лесу, на гары,  
Пазбіраліся звяры –  
Пра жыццё пагаварыць:  
У каго найлепш у хаце,  
У каго найбольш багацця.  
У мядзведзевай бярлозе  
Мох і лісце на падлозе,  
Замест столі – пні ды лом,  
Замест бэлек – буралом.  
У бярлогу цяжка ўлезці  
І няма чаго там есці.  
Як тут жыць, тут толькі спаць,  
Лапу з голаду смактаць.  
Ой жывецца дрэнна тут,  
У мядзведзя кепскі кут.  
Дзе лам'ё, галлё, кусты,  
У сасонніку густым,  
Каля каменя пад горкай  
У лісы малая норка.  
Хоць насцелены тут пух,  
Але хатка, як катух.  
У лісы малыя дзеткі  
Часам б'юцца за аб'едкі,  
І куды ты нос ні ткні,  
Дык запасаў ані-ні.  
І жывецца кепска тут,  
Дрэнны домік, дрэнны кут.  
Нібы ўлез у каламазь –  
На дзіку і бруд, і гразь.  
Ён жыве ў гушчары,  
Без бярлогі, без нары,  
Лычам мох, траву разрые  
І ў зямлі ляжыць па шыю.  
Ой, жывецца дрэнна тут,  
І ў казулі шмат пакут.  
Лось жыве не лепш у лесе.  
Рожкі віламі развесіць,  
Стане часам пад сасну,  
На хвіліначку заснуць.  
Калі наледзь або слота  
Дзе ні стане – там і хата.  
Так бывае частавата:  
Хцівы воўк раззявіў пашчу,  
Ён ад раніцы быў нашча.  
Не цікавіла размова,  
Ён не пікнуў ані слова.  
Голад выгнаў яго з хаты,  
І стаяў, маўчаў кудлаты.  
Гляньце ўверх, зірніце зорка,  
У дупле жыве вавёрка.  
І сказаць, вядома, можна,  
Што жыве яна заможна.  
Паглядае кожны ласа  
На вавёрчыны запасы,  
Бо насыпана, як з меха,  
Шышак, ягадаў, арэхаў.  
У вавёркі працавітай  
Ад дажджу ўсё прыкрыта.  
У чакоіку дупляным  
Чыста, суха і прыбрана.  
У вавёрчынай святліцы  
Часта сон цудоўны сніцца.  
Як прыгожа, цёпла тут,  
У вавёркі добры кут.  
У яе найлепш у хаце,  
У яе найбольш багацця.  
Аж да позняе пары  
Гоман быў у тым бары,  
Дзе сабраліся звяры  
Сярод лесу, на гары.

*Станіслаў Шушкевіч.*

### ЗІМОВЫ САД

Заснежаны, маўклівы,  
Наш сад не спіць, а марыць  
Пра ручаёк імклівы  
І ў небе птушак хмары,  
Пра ціхі гром над вуліцай  
І звонкія суквецці,  
Пра тое, як частуюцца  
Антонаўкамі дзеці.

*Іван Муравейка.*

### СІНІЦЫ

Замерзлі рэчкі і крыніцы,  
Пад палазамі снег рыпіць.  
Зляцеліся да нас сініцы,  
Каб да вясны ў садзе жыць.  
Вясна надыдзе – і пяюшкі  
Зноў паляцяць у лес назад.  
Успомняць нашыя кармушкі  
І наш гасцінны добры сад.

*Паўлюк Прануза.*

## МЯДЗВЕДЗЬ

Ці ведаеце, скуль узяўся мядзведзь? Мядзведзь перш быў такі ж самы мужык, як і ўсе мы, гарапашнікі. Даўно тое было. Людзей было мала. Гэта цяпер так народу намножылася, што чуць зямля іх падымае. Каб не ўмерлі, то б неба падперлі. А даўней людзі жылі там-сям па лесе, лавілі звера, птушак, а ў азёрах ды ў рэках – рыбу. Улетку збіралі ягады, грыбы або капалі карэнне і запасалі на зіму. Больш усяго запасалі арэхі і мёд. Пчол было тады багаценька. Яны самі вадзіліся ў дуплах, і ў зямлі, і ў норах. Па лесе і цяпер яшчэ ёсць пчолы ў дуплах. Іх называюць слепат. Людзі шукалі пчол у дуплах, і хто перш знайшоў, таго і былі тыя пчолы. Ён абвязваў тое дрэва, дзе знайшоў пчолы, і ўжо ніхто не мае права іх чапаць. Але быў адзін гультаяваты мужык. Яму не хацелася самому шукаць пчол, дык ён выдзіраў чужыя. Толькі цяжка яму было ўзлазіць на дрэва. От пачаў ён шукаць такога чарадзея, які б зрабіў, каб лягчэй было лазіць на дрэва.

За сямю лясамі ды сямю балатамі жыў такі чарадзей, што ўсё мог рабіць. Пайшоў да яго той чалавек. Ідзе ён ды ідзе лесам, бачыць – ліпа абвязана, думае – пчолы. Падышоў бліжэй, зірнуў, аж дупло зусім нізка, а ў ім мёд. Выдраў ён тыя пчолы і пайшоў далей. Бачыць – другое дрэва абвязана. Выдраў ён і тыя пчолы. Падыходзіць да зямлянкі таго чарадзея. А яго няма дома. Глядзіць, аж тут жа пры самай зямлянцы ў дрэве пчолы. Давай гэта ён іх драць. Але вось ідзе чарадзей. Зірнуў ён на таго чалавека ды і кажа:

- Ну, з гэтае пары і ты, і твае дзеці, і ўвесь твой род будзе толькі пчолы драць.

І абярнуў чарадзей таго чалавека ў мядзведзя. Так от адкуль узяўся мядзведзь.

*З беларускай міфалогіі.*

## ЛЮТЫ

Запытаўся люты:  
- Ці добра абуты?  
- Я абуты, -  
Кажа Янка, -  
Стаў на лыжы  
Каля ганка.  
Паімчаў ён  
Па лыжні,  
Снег, як цукар,  
Хоць лізні.  
Зззяе сонца,  
Слепіць вочы,  
За сялом  
Спыніўся хлопчык.  
У лагчынцы,  
Ля гары,  
Янкавы былі  
Сябры,  
Тут ляпілі  
Снегавік,  
Той, хто ключ зімы  
Вартуе...  
Хутка люты  
Адлютуе,  
Завітае  
Сакавік.

*Авер'ян Дзеружынскі.*

## СНЕГІРОК

На рабінаві сучок  
Сеў чырвоны камячок.  
Страсянулі мы рабіну –  
Паляцеў ён на каліну.  
Здагадаўся Васілёк:  
-Гэта птушка снегірок.

*Ніна Галіноўская.*



Пад іншы год у холад люты,  
Калі ўсе рэчкі лёдам скуты  
І ўсё пад снегам качанее,  
Глядзіш – цяплом табе павее,  
І з поўдня вецер хмары гоніць,  
У вокны дождж буйны зазвоніць  
І з капяжоў руччом сцякае,  
І снег жыўцом ён паядае.  
Скідае лес убор зімовы.  
І шум другі на лад-спеў новы  
Над борам цягне нескончона.  
І фанабэрыцца варона:  
"Вясна! Вясна! Гразь! Гразь!" – спявае,  
Як бы вясну ўжо сустракае.

***

Ды гэта толькі кпіны-жарты:  
Зімой цяпла чакаць не варта –  
Зіма свайго не падаруе,  
І злосна ветрам засвідруе,  
Ды так пацягне, так зайграе,  
Што проста нос табе зрывае.

*Урыўкі з паэмы Якуба Коласа "Новая зямля".*

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:* ТБМ імя Францішка Скарыны.  
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:* № 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.  
*Адрас рэдакцыі:* 220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.  
*Адрас для паштовых адпраўленняў:* 231300, г. Ліда-2, п/с 7.  
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by

*Рэдакцыйная калегія:*  
Людміла Дзіцэвіч, Алесь Гурыновіч, Ірына Марачкіна, Леакадзія Мілаш, Язэп Палубятка, Алесь Петрашкевіч, Уладзімір Содаль, Станіслаў Суднік, Павел Сцяцко, Алег Трусаў.

*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.  
Газета падпісана да друку 21. 02. 2000 г.  
Наклад 3000 асобнікаў. Замова № 338  
*Падпісны індэкс:* 63865.  
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 100 руб., 3 мес.- 300 руб.  
*Кошт у розніцу:* 30 руб.